

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 390 Травень 1992
Год выд. XLI

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## КАНЦЭПЦЫЯ ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

### (прапануецца Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце)

**МЕНСК, ЛЮТЫ 1992 г.**

**Уводзіны**

Прынцыпы пераходу эканомікі Беларусі да рыначных узаемадачыненьняў і шэраг законапраэктаў, якія прапанавала дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў 1990 годзе, былі адкінутыя камуністычна-намэнклятурнай большасьцю Вярхоўнага Савету. Была зробленая стаўка на стабілізацыю эканомікі загадна-адміністрацыйнымі мэтадамі пры захоўваньні дзяржаўнай уласнасьці на сродкі вытварчасьці й манапалізму дзяржаўных уладна-эканамічных структураў. Рыначная рэформа не праводзілася, законатворчасьць насіла бязсыстэмны, хаатычны характар; прынятыя законы не выконваліся, альбо сабатаваліся старымі выканаўчымі органамі ўлады. Рыначныя структуры не разьвіваліся належным чынам. У выніку зьявіліся ценявыя прадпрыймальніцтва й гандль; вырасла крымінальная сыстэма эканомікі на аснове спалучэньня камандна-адміністрацыйнай улады, дзяржаўнай уласнасьці, рынкавых утварэньняў і карупаванага законатворства. Пачалася скрытая, незаконная, «дзікая» прыватызацыя, перапампоўваньне дзяржаўных фондаў і рэсурсаў у прыватную ўласнасьць дзяржаўнай бюракратыі і мафіёзных структураў, перавод безнаяўных грошай у наяўныя, усталяваньне двайных цэнаў (дзяржаўных і ценявых). Усё гэта пасьпешыла інфляцыю, зьнікненьне тавараў, рост беспрацоўя, зьбядненьне людзей ды агульнае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі.

Працэс абрабаваньня беларускага народу былой камуністычнай бюракратыяй адбываецца на фоне кволай дзяржаўнай палітыкі, адсутнасьці ўвагі да каштоўнасьцяў сувэрынітэту і нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Гэта прывяло да залежнасьці Беларусі ад хворай эканомікі некаторых суседніх дзяржаваў, да капітулянства, марнатраўства народнай працы і багацьцяў Рэспублікі, моцна паўплывала на зьбядненьне беларускага народу ў сувязі з навязанай нам так званай «лібэралізацыяй» цэнаў (фактычна іх падвышэньне); зачыняе свабодныя пэрспэктывы разьвіцьця Беларусі як вольнай эўрапэйскай дзяржавы. Эканоміка Рэспублікі стаіць перад пагрозай калапсу.

Адначасна на Беларусі пачынаецца вельмі небясьпечны крызіс культуры, дэвальвацыя каштоўнасьцяў, зьмешваньня крытэрыяў, распад традыцыйных прафэсыйных структураў, камерцыялізацыя творчасьці ды рэзкае, у сувязі з гэтым, зьніжэньне ўзроўню. Крызіс захапіў таксама фундамэнтальную навуку. Усё гэта на фоне дэфармаванай нясьпелай нацыянальнай сьвядомасьці надзвычай абцяжае выхад з эканамічнае пасткі, аслабляе магчымасьці так неабходнай у гэтым становішчы нацыянальнай кансалідацыі і самаарганізацыі беларускага грамадзтва.

Паколькі ў аснове пагаршэньня эканамічнага стану дзяржавы ляжаць груповыя матэрыяльныя інтарэсы кіруючай камуністычнай бюракратыі, якія пярэчаць патрэбам народу, крызіс на Беларусі бязвыходны бяз адхіленьня былой камуністычнай намэнклятуры ад улады. Перамена ўлады на карысьць народу можа адбыцца толькі шляхам нечарговых выбараў на аснове дэмакратычнага закону. Менавіта, зыходзячы з магчымасьці дэмакратычных пераменаў на Беларусі, і плянуецца гэтая канцэпцыя. Яна ня можа быць ужыцьцёўленая ў цяперашніх абставінах, бо падрывае манапольныя магчымасьці і ўладу былой намэнклятурнай бюракратыі, аднак яна стасуецца да дэмакратычнага спосабу разьвіцьця грамадзтва, будзе спрыяць умацаваньню беларускай дзяржавы.

**Мэта рэформы**

Мэтаю рэформы ёсьць стварэньне эфэктыўнай эканомікі, здольнай забясьпечыць высокі ўзровень жыцьця грамадзян і эканамічны сувэрэнітэт Рэспублікі Беларусі. Пры гэтым пераход да рынкавых адносін разглядаецца як мэта і сродак.

**Мэтады рашэньня**

Выкарыстаньне плянава-адміністратыўных мэтадаў для пераходу да рынкавых адносін з наступнай арыентацыяй на рынкавыя мэханізмы, пакідаючы за дзяржаўнымі структурамі рэгуляваньне эканомікі на макраскапічным узроўні.

**Аналіз прычынаў крызісу эканомікі**

Прычыны крызісу, акрамя палітычных чыньнікаў, пералічаны ніжэй:

1. Празьмерны ўзровень расходаў у ваенна-палітычнай галіне былога СССР (ваенныя расходы, падтрымка «сяброўскіх» рэжымаў і партыяў, правядзеньне геапалітыкі, удзел у канфліктах і войнах). Дзесяцігодзьдзі праводзілася палітыка на абрабаваньне эканомікі усіх рэспублікаў СССР. На фінансаваньне гэтай палітыкі пайшлі даходы ад прададзеных за мяжу прыродных рэсурсаў, адкладзеная вартасьць працы (пэнсійны фонд, назапашваньні насельніцтва ў ашчадбанках СССР, амартызацыйныя назапашваньні). Трэба таксама улічваць, што ў СССР увесь час падтрымліваўся нізкі ўзровень аплаты працы.

2. Парушэньне базавых эканамічных адносінаў уласнасьці. Рабілася спроба ўвесьці рынкавыя мэханізмы і паказчыкі у нярынкавую эканоміку, што прывяло да страты кіравальнасьці і анархіі ў вытворчасьці, парушэньня адносінаў меры працы і спажываньня, вынікам чаго стала спэкуляцыя, спадак вытворчасьці, інфляцыя.

3. Пасьлядоўнае разбурэньне грашовай і крэдытна-фінансавай сыстэмы. Адсутнасьць інстытутаў захаваньня ўстойлівасьці фінансавай сыстэмы (цэнтральнага банку, рэзэрвовай сыстэмы рублёвай зоны і г.д.). Пакрыцьцё дэфіцыту за кошт незабясьпечанай эмісіі грошай. Сьвядомае правядзеньне інфляцыйнай палітыкі.

4. Правядзеньне зьнешнеэканамічнай палітыкі, накіраванай супраць уласнага (унутранага) вытворцы, што асабліва датычыцца сельскагаспадарчай вытворчасьці.

5. Захаваньне татальнай дзяржаўнай уласнасьці, як у прамысловасьці, так і дэ-факта ў сельскай гаспадарцы.

6. Адсутнасьць мэтаў і праграмы пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы, на іншы спосаб вытворчасьці, заснаваны на свабоднай рынкавай эканоміцы.

**Прынцыпы рэформы**

— Рэфармаваньне эканомікі Рэспублікі Беларусі ажыцяўляецца ва ўмовах наяўнасьці ўсіх чыньнікаў, што вызначаюць дзяржаўнасьць Рэспублікі Беларусі: мяжа, мытня, свая валюта і банкавая сыстэма з цэнтральным банкам, магчымасьць абароны дзяржаўнага сувэрэнітэту (нацыянальнае войска).

—Непарушнасьць прынцыпаў недатычнасьці ўласнасьці і захаваньня права ўласнасьці.

— Разьдзяленьне для дзяржаўнага сэктара функцый улады і уласнасьці (уладныя перадаюцца міністэрствам, холдынгавым кампаніям, канцэрнам і г.д., маёмасныя — альбо Камітэту па дзяржмаемасьці, альбо Фонду дзяржмаёмасьці, уласнасьць на зямлю дзяржфонда — Зямельнаму Фонду).

— Заканадаўчае фармаваньне рынкавых дачыненьняў пры роўнасьці ўсіх формаў уласнасьці, якімі забесьпячаюцца:

а) свабода эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці фізычным і юрыдычным асобам;

б) свабода спажываньня суб'ектам на рынку;

в) стварэньне ўмоў і забесьпячэньне канкурэнцыі вытворцаў тавараў і паслугаў.

— Недапушчэньне зьмешваньня на прадпрыемствах прынцыпаў, мэтадаў і структураў адміністрацыйна-разьмеркавальнай і рынкавай сыстэмаў.

— Прызнаньне магчымасьці уваходжаньня ў рынкавыя дачыненьні: увядзеньне ўсяго Комплексу рынкавых мэханізмаў да заканчэньня правядзеньня прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці.

— Стварэньне прыватнага (недзяржаўнага) сектару эканомікі Беларусі шляхам правядзеньня разьдзяржаўленьня і прыватызацыі, а таксама правядзеньне дзяржаўінай палітыкі падтрымкі прадпрыймальніцкай дзейнасьці. Потым сумяшчэньне прыватызацыі з нацыяналізацыяй.

— Прыняцьцё ўзроўню ваенных расходаў ня больш за 6-8 працэнтаў бюджэту. (На пераходны пэрыяд можа быць іншы ўзровень).

— Правядзеньне дзяржаўнай палітыкі паводле структурных зьменаў Рэспублікі Беларусі на груньце рынкавых падыходаў.

— Правядзеньне валютнай рэформы і заканадаўчае замацаваньне грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусі ў якасьці адзінага плацёжнага сродку на тэрыторыі Беларусі.

— Фармаваньне падаткавай сыстэмы, накіраванай на павялічэньне аб'ёмаў вытворчасьці, прадукцыйнасьці працы, правядзеньне актыўнай амартызацыйнай і інвэстыцыйнай палітыкі.

— Правядзеньне сацыяльнай палітыкі, накіраванай на падтрымку неабароненых слаёў насельніцтва за кошт падаткавай палітыкі і стварэньня пазабюджэтных фондаў, а таксама вырашэньне пытаньняў унутранай дзяржаўнай пазыкі (пэнсіённага фонду, ашчаднасьцяў у дзяржбанку) за кошт продажу часткі дзяржаўнай маёмасьці, у тым ліку залішняй ваеннай маёмасьці.

Фармаваньне дзяржаўнасьці Рэспублікі Беларусі.

Рэспубліка Беларусь у адпаведнасьці з канстытуцыйным законам фармуе самастойныя дзяржаўныя інстытуты, якія дазваляюць праводзіць зьнешнюю і ўнутраную палітыку ў інтарэсах Беларусі.

**Непарушнасьць прынцыпаў недатычнасьці ўласнасьці і захаваньня права ўласнасьці**

Патрабуецца спарадкаваць дачыненьні ўласнасьці ў эканоміцы Рэспублікі Беларусі. На прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасьці ўзнавіць права ўласьніка-дзяржавы на дзяржаўную уласнасьць, якая павінна выкарыстоўвацца для вырашэньня эканамічных і сацыяльных праблемаў усяго народу Рэспублікі Беларусі. У зьвязку з гэтым Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусі неабходна прыняць заканадаўчы акт, які б пацьвердзіў пералік прадпрыемстваў, аб'ектаў, зямлі і карысных выкапняў, водаў і паветранай прасторы, што зьяўляецца дзяржаўнай уласнасьцю Рэспублікі Беларусі. Такім чынам пацьверджаецца права дзяржавы як уласьніка прымаць пастанову пра лёс уласнасьці, адказваць за яе эфэктыўнае выкарыстаньне і атрымваць прыбытак на ўкладзены дзяржавай капітал, акрамя падаткаў, што атрымае ў агульным парадку. Упарадкоўваюцца адносіны ўласьніка з калектывам наёмнай працы і найманай ўласьнікам асобай або органам кіраваньня.

Строгае выкананьне прынцыпаў недатыкальнасьці ўласнасьці не дазволіць надалей лічыць калгасы дзяржаўнай уласнасьцю. Зямля павінна арандавацца калгасамі ў дзяржавы. А калгасную ўласнасьць давядзецца лічыць калектыўнай з вызначэньнем паю для кожнага, хто працуе ці працаваў у калгасе, а таксама іхніх спадкаемцаў. За гэтым абавязкова наступае фактычнае разьняволеньне сельскагаспадарчай галіны.

(Працяг на 2-й б.)

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Канцэпцыя эканамічнай рэформы (*працяг*)

У заканадаўчым акце пацьверджаецца суб'ект права дзяржаўнай уласнасьці — Камітэт дзяржаўнай уласнасьці (або Фонд дзяржаўнай уласнасьці).

Як вынікае з вышэйпададзенага, павінна быць адноўленая манаполія дзяржавы на ўнутраны і зьнешні гандаль пэўнай прадукцыяй прадпрыёмстваў дзяржаўнага сэктару, які доўга яшчэ застанецца манаполіяй дзяржавы: асноўнымі відамі сыравіны, ювэлірнымі вырабамі, алкагольнымі вырабамі, зброяй. Для аховы дзяржаўнай манаполіі на продаж гэтых тавараў уводзіцца строгая крымінальная адказнасьць.

Дзяржава гарантуе недатыкальнасьць і абарону ўласнасьці й права ўласнасьці для ўсіх формаў уласнасьці праваахоўнымі й страхавымі захадамі.

**Заканадаўчае забесьпячэньне рынкавых дачыненьняў пры роўнасьці ўсіх формаў уласнасьці**

Заканадаўчае забесьпячэньне рынкавых дачыненьняў палягае на прыняцьці й карэктаваньні Законаў Рэспублікі Беларусі пра уласнасьць, пра інтэлектуальную уласнасьць, пра аўтарскае права, пра сэртыфікацыю, аб сялянскай гаспадарцы, аб зямлі, аб зямельнай рэформе, пра банкі, пра зямельны банк, пра інвэстыцыі, пра фондавую й таварную біржы, грамадзянскі кодэкс, закон пра экалёгію ды інш., якія павінны забясьпечыць тры галоўныя прынцыпы й гарантаваць іх правядзеньне:

1. Свабоду эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці. Гэта дае магчымасьць перайсьці ад дазваляльнага прынцыпу дзейнасьці да рэгістрацыйнага зь вельмі мінімальнымі выдаткамі часу й фінансаў набывае права займаца любой дзейнасьцю, спэцыяльна не абмежаванай законам. Пад свабодай належыць разумець і выбар роду прадпрыемства ці аб'екта, і месца яго знаходжаньня. Дзяржава заахвочвае прадпрымальніцкую дзейнасьць эканамічнымі, праваахоўнымі й прапагандысцкімі захадамі.

2. Свабоду спажываньня. Усе суб'екты на рынку і стадыі фармаваньня павінны мець роўныя ўмовы спажываньня ўсіх тавараў: сродкаў вытворчасьці, сыравіны, камплектацыі, матэрыялаў, зямлі, энэргіі, прадуктаў і г.д.

У сувязі з гэтым фізічныя і юрыдычныя асобы, якія прадстаўляюць прадпрыемствы розных формаў уласнасьці, павінны знаходзіцца ў роўных умовах пры спажываньні неабходных тавараў і паслугаў.

Рэалізацыя свабоды спажываньня абавязкова мае на ўвазе адмову ад такіх размеркавальных адміністрацыйных структураў, як дзяржкамітэт па забесьпячэньню і пераходу рынкавых інструмэнтаў — біржаў — вымагае ліквідацыі абмежаваньняў у рамках рынкавай прасторы: квотаў, ліцэнзіяў і абмежаваньняў руху капіталаў і тавараў. Рэспубліка Беларусь прапануе дзяржавам-суседзям заключыць двухбаковыя пагадненьні дзеля рэалізацыі гэтых прынцыпаў на сваіх тэрыторыях, паколькі дзяржавы павінны быць зацікаўленыя ў разьвіцьці агульнага рынку й эканамічных дачыненьняў.

Павінен быць прыняты Закон Рэспублікі Беларусі, які забароніць картэльныя пагадненьні вытворацаў і абавяжа ўласьнікаў ці ўпаўнаважаных імі рэалізоўваць прадукцыю празь біржы. Можна пагадзіцца з тым, што па меры напаўненьня рынку таварамі, патрабаваньне рэалізацыі празь біржы можа быць паслаблена.

3. Стварэньне ўмоваў і забесьпячэньне канкурэнцыі вытворцаў тавараў і паслугаў.

Канкурэнцыя разглядаецца як найбольш эфектыўны сродак дасягненьня й забесьпячэньня дабрабыту. Канкурэнцыя зьнішчае ўсе прывілеі, якія не зьяўляюцца непасрэдным вынікам падвышэньня прадукцыйнасьці працы. Для забесьпячэньня ўмоваў канкурэнцыі павінна быць падтрыханае й прынятае антыманапольнае заканадаўства. У некаторых галінах дзеля стварэньня канкурэнцыі ўнутраным вытворцам лібэралізуецца доступ на рынак Беларусі аналігічных тавараў зь іншых краін. Пры рэалізацыі дзяржаўных замоваў дзяржава праводзіць палітыку фармаваньня некалькіх пастаўшчыкоў.

**Недапушчэньне зьмешваньня ў эканоміцы наогул і на асобных прадпрыемствах прынцыпаў, мэтадаў і структураў адміністрацыйна-размеркавальнай і рынкавай сыстэмаў**

Аналіз сытуацыі ў былым СССР паказаў, што адзінаю прычынай эканамічнага крызісу са стратай дзяржаўнага кіраваньня гаспадарчымі і грамадзка-палітычнымі працэсамі стала адначасовае сумеснае выкарыстаньне прымусовых (плянавых) і дэмакратычных (рынкавых) спосабаў кіраваньня прадукцыйнымі сіламі.

Кіраўніцтва БССР ня ўсьведаміла галоўнае: рынкавыя законы ня могуць працаваць у нярынкавай эканоміцы. Ва ўмовах, калі інфармацыя ад эканамічнай сыстэмы ішла скажоная, прымаліся няправільныя гаспадарчыя пастановы, і ў выніку нерэнтабельнымі сталіся самыя патрэбныя людзям вытворчасьці: харчовая, тавараў спажываньня, будаўніцтва жылля, рэсурсаашчадныя тэхналёгіі. Наадварот, рэнтабельнымі сталіся: марная перавозка грузаў, гіганцкія будоўлі, разбуральная для прыроды мэліярацыя, драпежнае перамолваньне рэсурсаў, тэхналягічна неэфэктыўныя вытворчасьці.

Паказчыкі «прыбытак» і «рэнтабельнасьць» як асноўную ацэнку дзейнасьці прадпрыемстваў можна выкарыстоўваць толькі зь пераходам усіх прадпрыемстваў на рынкавыя гандлёвыя формы сувязі са спажыўцамі.

Паступовы пераход да рынку вядзе да страты кіраваньня: «загад» ужо ня дзейнічае, а купляльная здольнасьць грошай яшчэ ня дзейнічае.

У той сыстэме, якая існуе, за рэдкім выключэньнем, арэндавыя і акцыянерныя прадпрыемствы, кааперацівы, па сутнасьці, сталі прыдаткам прадпрыемстваў дзяржпляну, памагаючы ім з асабістых інтарэсаў перамолваць рэсурсы Рэспублікі. Зарабляць безнаяўныя дзяржплянавыя грошы нашмат лягчэй, чым грошы грамадзян. Гэтая «нарасьць» стала імкліва пераводзіць безнаяўныя грошы прадпрыемстваў у наяўныя грошы грамадзян, не павялічваючы колькасьці тавараў і не паляпшаючы дабрабыту народу.

Узьнік парадаксальны факт. Грошы прадпрыемстваў яшчэ ня сталі ўсеагульным эквівалентам тавараў, прадпрыемствы пераходзяць на бартэрны абмен з-за таго, что ня маюць сапраўдных грошай і пераводзяць безнаяўныя дзяржплянавыя рублі ў наяўныя. Прычына тая самая: увод рынкавых структураў у нярынкавую эканоміку. Рынку яшчэ няма. Ён узьнікне тады, калі ўзьнікне купляльная сіла грошай, якія будуць абслугоўваць гандлёвыя формы сувязі.

Толькі поўная свабода прадпрыемстваў ад умяшальніцтва дзяржавы ў іхную гаспадарчую дзейнасьць, а не бязглуздае павышэньне цэнаў, распачне функцыянаваньне рынку.

Свабода ад будзь-якога ўмяшальніцтва чыноўнікаў у гаспадарчую дзейнасьць, залежнасьць толькі ад спажыўца і немінучае банкруцтва пры неэфэктыўным скарыстаньні рэсурсаў — вось асноўныя атрыбуты рынку. І ў гэтым разе ад «рынку прадаўцоў» мы зможам перайсьці да «рынку пакупнікоў».

**Прызнаньне магчымасьці ўваходу ў рынкавыя дачыненьні, уводу ўсяго комплексу рынкавых мэханізмаў да таго, як скончыцца правядзеньне прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці**

Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасьці можа заняць колькі гадоў. Вызначыць долю ўласнасьці ў прыватным сэктары, якая нібыта дазволіць увесьці рынкавыя мэханізмы, наўрад ці магчыма. Таму прапануецца іншы падыход, які мае на ўвазе разглядаць дзяржаву як звычайнага ўласьніка, г. зн. як сукупнасьць уласьнікаў розных аб'ектаў уласнасьці, але пры гэтым не дазволіць перапампоўваць дзяржаўныя сродкі ад эфектыўных прадпрыемстваў для таго, каб падтрымліваць неэфектыўныя. Дзяржаўныя прадпрыемствы атрымаюць поўную свабоду ў камэрцыйнай дзейнасьці й магчымасьці банкруцтва (заканадаўча забаронена марнаваць грошы бюджэту на датацыі нерэнтабельным вытворчасьцям). Дзяржава-уласьнік, г. зн. Урад, адміністратыўнымі мерамі, карыстаючыся правам уласьніка, стварае з манапольных вытворчасьцяў шэраг юрыдычных асобаў, абавязваючы іх пры неабходнасьці працаваць на каапэрацыю, але ва ўсіх астатніх выпадках працаваць самастойна. Калектывы прадпрыемстваў змушаныя будуць прыкласьці максімум намаганьняў, працавітасьці, здольнасьцяў, каб эфэктыўна выкарыстаць рэсурсы ў жорсткіх умовах рынкавай канкурэнцыі за іх. Дзяржава можа знайсьці сотні ўскосных каналаў, каб апекавацца сваімі прадпрыемствамі, калі ёй будзе дазволена карыстацца грашыма бюджэту ў камэрцыйным сэктары. Датацыі, ільготныя крэдыты, а таксама ільготнае падаткаабкладаньне — асноўны канал нэгатыўнага ўзьдзеяньня дзяржавы на рынак. Трэба пазбавіць дзяржаву ўсіх каналаў узьдзеяньня на камэрцыйную вытворчасьць і даць ёй усе правы ў рэгуляваньні ўзроўняў спажываньня грамадзян, каб абараніць сацыяльна незабясьпечаныя пласты насельніцтва і разьвіваць некамэрцыйную вытворчасьць. Камэрцыя ня церпіць дабрачыннасьці. Выжываць у вытворчасьці павінен той, хто лепш выкарыстоўвае рэсурсы ў інтарэсах грамадзтва.

У выключных выпадках уласьнік-урад або Камітэт па дзяржмаёмасьці аргумэнтавана прадстаўляюць Вярхоўнаму Савету Беларусі праэкты фінансаваньня прадпрыемстваў дзяржмаёмасьці з бюджэту.

Калі будуць створаныя названыя умовы для дзяржаўных прадпрыемстваў, можна ня зьвязваць уключэньне рынкавых мэханізмаў з хуткасьцю і аб'ёмамі прыватызацыі. Тым часам функцыянаваньне дзяржаўных прадпрыемстваў ва ўмовах рынку дазволіць вызначыць іхную сапраўдную цану, якая можа быць выкарыстаная падчас іх прыватызацыі. Банкруцтва прадпрыемстваў не азначае, што людзі, якія там працавалі, будуць выкінутыя на вуліцу — дзяржава забясьпечвае сацыяльную абарону, а рынкавыя мэханізмы фармуюць новыя працоўныя месцы ў выніку структурнай перабудовы. Але трэба ўлічваць, што калі дзяржаўнаму прадпрыемству даць свабоду гаспадарчай і камерцыйнай дзейнасьці, гэта ня зьменіць уласьніка, а значыць і матывацыю дзейнасьці, а таму прыватызацыю трэба праводзіць хутчэй.

(Працяг у наступным №)

## ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА!

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны, які карыстаецца істотнымі падатковымі льготамі для культурнай дзейнасьці за межамі Рэспублікі, прапануе:

— Разнастайную інфармацыю аб культурным жыцьці Бацькаўшчыны. Дапамогу суайчыньнікам у арганізацыі турызму для азнаямленьня з помнікамі і іншымі скарбамі нацыянальнай культуры ў рэспубліцы.

— Дастаўку суайчыньнікам за мяжою, з папярэдняй або наступнай аплатай, замоўленай літаратуры на беларускай мове, гука — і відэазапісаў, сувэніраў нацыянальна-культурнай тэматыкі і іншай прадукцыі, якая вырабляецца па заказам Таварыства Беларускай Мовы.

— Афармленьне афіцыйных запрашэнняў і пасрэдніцтва ў арганізацыі і забесьпячэньні побыту на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь суайчыньнікам з-за межаў Бацькаўшчыны.

— Апублікаваньне на старонках штотыднёвіка Таварыства «Наша слова», а таксама прадстаўленьне рэдакцыям іншых пэрыядычных выданьняў або выдавецтваў Рэспублікі артыкулаў, допісаў, мастацкіх або навуковых твораў, рэкламы, аб'яваў і іншых матэрыялаў, якія служаць пашырэньню нацыянальнай культуры і беларускага слова.

Зацікаўленых, просім пісаць на адрас:

— 220010, г. Мінск, Дом Ураду, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры, сп. Яўгену Цумараву.

## РАСЕЯ ЗАБРАЛА ЎСЁ…

Гэтак піша Вашынгтонскі друк, калі йдзе гутарка пра маемасьць ды памешканьні для амбасадаў рэспублікаў Беларусь, Украіна й Арменія. І сапраўды, беларускай амбасадзе на вуліцы К нр. 1511 N.W. даводзіцца пазычаць у знаёмых амэрыканцаў мэблю — крэслы, сталы і г.д., украінская амбасада да нядаўна мясьцілася ў памешканьні Вашынгтонскай Псыхіятрычнай Групы, а армянам пашчасьціла, бо армяне-амэрыканцы пазычылі памешканьне земляком пры Армянскай Лізе Амэрыкі. Іншыя-ж рэспублікі — Казахстан і г.д. наагул сваіх памешканьняў ня маюць. Амбасада-ж Расеі месьціца ў былой амбасадзе СССР, а ўся маемасьць былога Саюзу ў Вашынгтоне забраная Расеяй. Вось і справядлівасьць да канца!

# МІТРАПАЛІТ БАПЦ МІКАЛАЙ У БЕЛАРУСІ

**(Працяг. Пачатак гл. у № 389)**



*Капліца пры Мірскім Замку. Фота А. Кляшчука.*

**Заслаў'е**

У панядзелак, раніцаю, 2-га сакавіка мы паехалі ў Заслаў'е, 25 кілёмэтраў на паўночны захад ад Менску. Пад'яжджаючы да Заслаў'я, мінаем з права-га боку Заслаўскае Вадасховішча ці Мінскае Мора. Спыняемся і наведваем зь левага боку дорогі Курганны Могільнік крывічоў 10-12 стагодзьдзяў. Праяжджаем у Заслаў'е, горад Рагнеды й Ізяслава, пабудаваны ў канцы 10-га стагодзьдзя. Ходзім па ўзгорках, накіроўваемся да Спаса-Праабражэнскай Царквы пабудаванай ў 16-17 ст. на замчышчы акружаным валам. У царкве білі ў званы, калі мы падыходзілі. Тут Уладыку Мікалая спаткалі два сьвятары з хлебам ахінутым рушніком. Мы памаліліся ўсе разам. Уладыка Мікалай сказаў у сваім слове, што ён шчасьлівы, што яму давялося быць у гэтым сьвятым месцы ды падзякаваў усім, што прышлі спаткацца зь ім.

Калі мы выйшлі з Царквы, да мяне падыйшла адна жанчына й сказала: «Я ня ведаю, ці ёсьць правільным маліцца па беларуску?» Я папытаў у яе, чаму яна думае, што гэта можа быць ня правільна. Яна сказала у сваю чаргу, што так ніколі не маліліся. Я–ёй адказаў прыблізнай цытатай з «Царкоўных Казаньняў», дадатку да часопісу «Праваслаўны Беларус». Но. 1 , месяц чэрвень 1925 г., Сшытак 1, рэдагаванага Ів. Пачопкам з дазволу В.П. Дзіанісія, Мітрапаліта Варшаўскага й усёй Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, год 1, сшытак 1, бач. 2: «Вялікі праправеднік навукі Хрыстовай Апостал Павел у сваім першым пасланьні да Карынфянаў (гл. 14) рашуча ідзець супроць ужываньня чужой мовы: «Калі я прыду да Вас, брацьця, і буду гаварыць незразумелай мовай, то якую вам прынясу карысьць? ... (Кар. 14, 6). Уладыка Мікалай у сваіх казанях павучаў, што гэтаму вучыць Сьвятое Пісаньне. Мы коратка затрымаліся ў сп-ва Тацьцяны Гаранскай і Віктара Маркаўца, якія былі нашымиі апякунамі ў гэты дзень. Сп. Маркавец ёсьць ведамы мастак і мы з цікавасьцю агледзелі галярэю ў іхным доме. Аб іх гісторыка-культурным камплексе «Гарыслава» напішам пазьней.

**Полацак**

У сераду, 4-га сакавіка, мы паехалі са сп. Валянцінам Голубевым у Полацак. Полацак — калыска беларускай дзяржаўнасьці й Хрысьціянства ў Беларусі. У 10-м стагодзьдзі, Полацак быў ужо цэнтрам Полацкага Княства. Тут-жа было веча, дэмакратычная інстытуцыя тых часоў. У 12-ым стагоддзі тут працавала асьветніца зямлі беларускай і першая беларуска сьвятая Еўфрасіньня Полацкая. У 16-ым стагоддзі місію Сьв. Еўфрасініі Полацкай прадаўжаў Францішак Скарына — першадрукар Беларусі й Ўсходняй Эўропы. Мы чуемся тут пільгрымамі: накіроўваемся ў Спаса-Еўфрасінеўскі Манастыр, дзе знаходзіцца Спаса-Еўфрасінеўская Царква. Нас спатыкае Япіскап Полацкі й Віцебскі Дзімітры. Мы прыкладаемся да Мошчаў Сьвятой Еўфрасініі — Асьветніцы нашага народу; адчуваем, што гэта была вялікая ласка для нас — беларускага пастыра й вернікў. Царква пабудаваная ў 12-ым стагоддзі дойлідам Іванам. Сьцены тоўстыя, вокны малыя й вузкія. Царква моцна зьнішчаная. Калі пазьнейшыя алейныя размалёўкі пачалі адпадаць, выявіліся старыя фрэскі 12-га стагодзьдзя; прыпушчаючь, што адзін з абразоў прадстаўляе Сьв. Еўфрасіньню. Сяньня тут адбываецца адбудова будынку й рэстаўрацыя абразоў. Мы беларусы ды й увесь сьвет павінен дапамагчы ў аднаўленьні гэтага рэлігійна-мастацкага помніка старыны. Побач, недалёка, Спаса-Праабражэнская Царква. Мы спаткалі ігуменю манастыра й даведаліся, што ў гэтым месцы будзе галоўны жаночы манастыр Беларусі й сюды будуць пераведзеныя манашкі з Жыровіцкага манастыра. Уладыка Дзімітры запрасіў нас на абед і мы мелі нагоду падзяліцца думкамі адносна будучыні нашай Царквы, уражаньнямі з падарожжа ды наведаньня сьвятых мясьцін у Полацку. Прыемна было заўважыць, што Ўладыка Дзімітры добра валодае беларускай мовай. Наступна мы паехалі ў Полацкі Сафійскі Сабор, помнік царкоўнага будаўніцтва 11-га стагодьдзя. Сабор быў пабудаваны ў часы княжаньня Ўсяслава ў 1044-1066 гадох. Гэта была трэйцяя сьвятыня такога характару на ўсходзе Эўропы. Слаўныя былі пачаткі гэтай царквы: тут маліліся, прыймалі замежных паслоў, вырашалі пытаньні вайны й міру; дзейнічала бібліятэка й архіў. Мяняўся лёс краіны, мяняўся лёс царквы; яе нішчылі, палілі й перабудоўвалі. У 1980-ым годзе з царквы зрабілі канцэртную салю. Сёньня царква адбудоўваецца ды ізноў пачынаюцца споры між хрысьціянамі: чыёй уласнасьцю Сабор мае быць.

Выяжджаючы з Полацку, мы спыніліся на прадмесьці Бельчыцы. Калісь у мястэчку была рэзыдэнцыя полацкіх князёў. У 12-м стагоддзі там быў пабудаваны мужчынскі манастыр, у які ўваходзілі чатыры мураваныя храмы. Манастыр існаваў да паловы 20-га стагоддзя. Упадак манастыра пачаўся ўжо ў 17-ым стагоддзі й кончыўся ў першай палове гэтага стагодзьдзя, калі манастыр быў поўнасьцю зьнішчаны.



*У Жыровіцкім Манастыры. Фота А. Кляшчука.*

**Жыровіцы**

У пятніцу, 6-га сакавіка, Уладыка Мікалай і пішучы гэтыя радкі выбраліся, каб зьведаць Жыровіцы ды свае родныя куты, Уладыка Мікалай Моталь, а я — Баранавічы. Сп. Ганько паехаў ў Маладэчна. На дарозе мы затрымаліся ў Міры. Мір, стары горад на поўнач ад Баранавічаў, успамінаецца ўжо ў 14-ым стагоддзі. Пабачылі мы тут царкву, касьцёл, Мірскі замак і Мірскую капліцу. Мірскі замак быў пабудаваны ў пачатку 16-га стагоддзя, зьмяніў некалькі уласьнікаў, апошня належаў князям Сьвятаполк-Мірскім. Прыпамінаецца сустрэча беларускіх студэнтаў з князем Сьвятаполк-Мірскім (імя не памятаю), які захаваў лучнасьць са сваім народам. Замак, хаця й на лісьце гістарычных помнікаў, але запушчаны. Прыцягвае ўвагу падарожнага Мірская капліца, пабудаваная ў 1904-ым годзе як пахавальня князёў Радзівілаў. Капліца таксама недагледжаная, але яркі вобраз Ісуса Хрыста захаваўся добра й прыцягвае ўвагу.

З Наваградку паехалі ў Слонім. Там мы наведалі Царкву Сьвятой Тройцы й спаткаліся з а. Юрым Гардуном. У царкве, якую парахвія атрымала некалькі год таму, сабралася шмат парахвіянаў — нашых блізкіх землякоў. Уладыка Мікалай выказаў сваю радасьць са спатканьня ды благаславіў прысутных. Калі мы вышлі з царквы, між намі й парафіянамі пачаліся цікавыя гутаркі, было шмат пытаньняў. Нам трэба было ехаць у Жыровіцы, 12 кілямэтраў ад Слоніму; да нас прылучыўся а. Гардун.

У Жыровіцах нас цёпла спаткалі й прадставілі Рэктару Сэмінарыі, Япіска-Брэсцкаму й Кобрынскаму Канстанціну. Мы наведалі Царкву й прылажыліся да іконы Божай Маці Жыровіцкай. Для нас было наладжана прыняцьце зь Япіскапам Канстанцінам і духавенствам Манастыра. Нам паказалі забудаваньні манастыра ды ўладжаньні Сэмінарыі. Даўжэй затрымаліся ў бібліятэцы, якая пацярпела ў ваенныя й паваенныя часы ды страціла шмат кніжак і навучальных матар'ялаў. Мы абяцалі дастаць для бібліятэкі вельмі патрэбныя энцыкляпэдыі. Было вельмі пацяшаючым бачыць малафых, сур'ёзных людзей, што рашылі служыць Богу й чалавецтву ў гэты зводлівы й цяжкі час у жыцьці грамадзтва і краіны. Уладыка Мікалай з радасьцю падпісваў экзэмпляры свайго Маліто̆ўніка для студэнтаў Сэмінарыі. Вечарам былі на вячэрні. У Жыровіцах і заначавалі. Раніцай пасьля сьнеданьня, мы разьвіталіся з гаспадарамі й паехалі кожны на сваю радзіму. Мы адчувалі, што другая мэта пільгрымкі была асягнутая. Мне асбліва было прыемна, што змог пабыць у гэтым сьвятым месцы, куды мая маці хадзіла пешкі 50 кілёмэтраў кожныя два гады.

**В. Русак**

(Працяг у наступным №)

---

## СПАТКАНЬНЕ З СТАРШЫНЁМ ТАВАРЫСТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

22 траўня ў царкоўнай залі прыходу сьв. Маці Жыровіцкае ў Гайлянд Парку адбылося спатканьне, наладжанае Адзьдзелам БАЗА ў Нью Джэрзі, із спадаром Яўгенам Лецка, старшынём таварыства «Бацькаўшчына». Сп. Лецка расказаў аб апошніх падзеях на Беларусі, адказаў на шматлікія пытаньні ды заклікаў суродзічаў адведваць Беларусь пры дапамозе таварыства «Бацькаўшчына».

## ДЗЬВЕ БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ

**Беларуская Думка,** Саўт Рывэр, штат Нью Джэрзі, грамадзка-палітычны й літаратурна-мастацкі часапіс, выходзіць ад 1960 году. Нядаўна быў разасланы падпісчыкам 37-ы нумар гэтага часапісу. І цікавая рэч, што у Менску, ад сёлетняга году зьвяўся часапіс пад гэткім самым назовам «Беларуская Думка», які ёсьць прадаўжальнікам не чаго іншага. як «Коммуниста Белоруссии!» Гэткім чынам беларуская прэса мае цяпер дзьве «Беларускія Думкі».

**Івонка Сурвілла**

## УРАЖАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Самалёт ужо далятаў да Менску, калі я нарэшце паверыла, што запраўды зараз прызямлюся ў Беларусі. Стаoалася ўявіць, што пабачу. Прыпомнілася раніца, калі сорок восем гадоў таму назад, у Баранавічах, зрухнуўся зь мейсца таварны цягнік, у якім мае бацькі з трыма малымі дзецьмі выбраліся ў невядомы сьвет. Прыпомніла Цёцю Ганку, у белай хустачцы, якая з плачам бегла за цягнікам. Нядаўна даведалася, што яна яшчэ жыве. Ляту з надзеяй, што яшчэ яе пабачу, што змагу яе адведаць разам з братам Лявонам, які якраз таксама меўся прыляцець у Менск з Францыі.

Прыпаміналіся таксама цудоўныя мамэнты дзяцінства у дзядоў у Засульлі: сьпеў пеўня раніцою, цёплыя праменьні узыходзячага сонца ў яблынях перад вакном, аладкі са сьмятанай на сьнеданьне; рэчка за лугам дзе «плавалі» ў таты на плячах, млын крышку далей направа, пры Менскім шасэ — драўляная царква са званіцай, якую тата маляваў шмат пазьней у Парыжы... Абраз гэты вісіць цяпер у нас у Канадзе. Памятала ўсё гэта ў колерах. Успаміны з Засульля найлепшыя успаміны майго дзяцінства, бо тады яшчэ ня ведала што такое бомбы, пажары, страх, а пасьля — вечная туга...

Вяртаючыся ў Беларусь крыху хвалявалася. А што калі не знайду мае Беларусі, калі яна так зьмянілася, што не пазнаю?

Прысутнасьць такіх выдатных людзей як Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Аўген Канапля — сьветчыла аб важнасьці падзеі.

На Кангрэсе разглядаліся пытаньні зьвязаныя з экалягічнымі, мэдычнымі, біялягічнымі, ды таксама сацыяльнымі і сацыяльна-псыхалягічнымі наступствамі Чарнобыльскай катастрофы. Шмат увагі было прысьвечана пытаньню ядзернай энэргіі і будучыні нашай плянэты, а таксама чарнобыльскаму дасьледваньню МАГАТЭ (Міжнародная Агенцыя Атамнай Энэргіі), якое, дарэчы, было аднадумна асуджанае ўдзельнікамі Кангрэсу. Міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне дапамогі ахвярам Чарнобыля было тэмай шматлікіх выступленьняў на пленарнай сэсіі Кангрэсу і тэмай аднэй з трох працоўных групаў. Іншыя дзьве працоўныя групы займаліся мэдычнымі й навуковымі аспэктамі чарнобыльскай трагэдыі ды пытаньнем ядзернай энэргіі.

Удзельнікі Кангрэсу мелі магчымасьць наведаць дзіцячыя шпіталі Менску, у тым ліку шпіталь № 3, зь вялікім дзіцячым анкалягічным аддзелам. Гэта было найбольш сумнае дасьветчаньне майго падарожжа на Беларусь. Былі арганізаваныя таксама падарожжы ў раёны найбольш пацярпеўшыя ад радыяцыі.

У часе Кангрэсу было наладжанае спатканьне з сябрамі Апазыцыі беларускага Парлямэнту, а сп. Станіслаў



*«Сымпатычная жанчына», перасяленка з Чарнобыльскай Зоны. Фота Івонкі Сурвіллы.*

Мая паездка была зьвязаная з кангрэсам «Сьвет пасьля Чарнобыля», на які мяне запрасілі як старшыню Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля на Беларусі. Плянуючы падарожжа, я вырашыла выехаць раней ды пабыць таксама колькі дзён пасьля Кангрэсу, каб тое-сёе пабачыць. Тады я яшчэ ня ведала, што спаткаю столькі цудоўных людзей, якія зробяць з гэтага майго першага падарожжа на Бацькаўшчыну адну з найбольш цікавых і прыемных падзеяў майго жыцьця.

Кангрэс адбыўся ў Менску ў днёх ад 13-га да 17-га красавіка. Арганізаваў яго Беларускі Дабрачынны Фонд «Дзецям Чарнобыля» пад кіраўніцтвам Генадзя Грушавога. Мэтай Кангрэсу было прыцягнуць увагу сусьвеннага грамадзтва на трагічны лёс Беларусі шэсьць гадоў пасьля ядзернай катастрофы ў Чарнобылі. У працах Кангрэсу прынялі ўдзел навукоўцы, грамадзкія й палітычныя дзеячы і прадстаўнікі шматлікіх дабрачынных арганізацыяў Беларусі, Японіі, Нямеччыны, Швэйцарыі, Бэльгіі, Канады, Задзіночаных Штатаў, Вялікабрытаніі і ншых краінаў сьвету, а гэтаксама прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў: Міжнароднага Чырвонага Крыжу, Шорлдвісіон, і г.д.

Шушкевіч прыняў дэлегацыю Кангрэсу ў Парлямэнце Рэспублікі Беларусь. У часе спатканьня, якое трывала паўтары гадзіны, сп. Шушкевіч, між іншага, сказаў, што хаця цяпер не плянуецца будова ніякай новай ядзернай электрастанцыі ў Беларусі, ён аднак не выключае магчымасьці гэткай пабудовы у будучыні. Асьветчаньне Шушкевіча выклікала нэгатыўную рэакцыю сярод прысутных.

Дэлегатаў Кангрэсу гасьціў гэтаксама Мітрапаліт Філарэт, які папярэдня браў удзел ва ўрачыстым адкрыцьці Кангрэсу. Ён выбачыўся, што не гаворыць па-беларуску, бо сам расеец, але, падкрэсьліў, што ўсе яго япіскапы — беларусы.

Арганізатарам Кангрэсу належыцца прызнаньне за наладжаньне гэткага важнага й карыснага мерапрыемства. Адно толькі мела расчараваньне: на Кангрэсе амаль паўнасьцяй адсутнічала беларуская мова. Нават прывітальнае слова на канцэрце было сказанае па-расейску. Хоць я ведаю некалькі моваў, расейскай ніколі ня вучылася і таму вельмі слаба разумею. Дык вось у Менску, у беларускай сталіцы, была змушаная слухаць даклады беларускіх навукоўцаў у ангельскім перакладзе... (Працяг у наступным нумары)

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Згуртаваньне Беларусаў Канады**
паведамляюць, што чарговая
**20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**
адбудзецца сёлета ў Labor Day Weekend, 5-7 верасьня
ў г. Нью-Браўнсуіку, шт. Нью Джерзі ў **Hyatt Regency Hotel, 2 Albany Street**

## CANADA 125 І БЕЛАРУСЫ

125-я ўгодкі Канады, што прыпадаюць на 1992 год, сьвяткуе на працягу гэтага году ўся Канада ад Атлянтыку да Ціхага акіяну.

Адным з такіх сьвяткаваньняў быў арганізаваны праз "Welcome Center" — «Цэнтр гасьціннасьці» — Антарыйскага гораду Бэры 5-га траўня «Шматкультурны вечар». Узяць удзел у гэтай імпрэзе была запрошаная й старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раіса Жук-Грышкевіч. Нагода была адпаведная для прапагаваньня Беларусі сярод канадыйскага насельніцтва 60-ці тысячнага гораду.

У імпрэзе, што наладжана была ў абшырнай ратондзе нядаўна пабудаванага ў навачэсным стылі City Hall — ратушы Бэры, узяло ўдзел болей пятнаццаці этнічных групаў. Шкоты, гэбрэі, грэкі, гіндусы, кітайцы, арабы, іншыя азіяцкія народы, эстонцы, літувісы, палякі, чэхі, славакі ды беларусы мелі свае выставачныя сталы. Некаторыя зь іх дэманстравалі свае стравы, якімі частавалі наведвальнікаў.

Беларуская выстаўка прадстаўляла гарманійна разложаныя на арыгінальным беларускім вытканым у дымку, выбеленым на сонцы, сьнежна-белым ільняным абрусе (падарак Жук-Грышкевічам ад сьв. пам. матушкі Кацярыны Абабурка з Манчэстару ў Англіі) прадметы беларускага мастацтва: інкрустацыі саломкі на дрэве, лялькі з ільну, мастацкія вышыўкі выкананьня спадарынь Людовікі Бяленіс і Ірэны Пануцэвіч, альбомы вышытыя беларускім арнамэнтам сп-няй Юляй Андрусышын: пласкарэзьба на пютары з выявай Еўфрасіньні Полацкай й колерная фатаграфія ейнага Крыжа; паштоўкі Беларускага Памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідлянд у Канадзе, беларускія малітоўныя карткі з гэтай прошчы, паштоўкі Максіма Багдановіча й англамоўная літаратура пра Беларусь й чарнобыльскае няшчасьце з картай Беларусі. Выстаўку завяршала вялікая над выставачным сталом ПАГОНЯ выкананая мастачкай Івонкай Шыманец-Сурвіла шалкавісты бел-чырвона-белы сьцяг і чырвонымі на белым тле літарамі напіс: BELARUS.

Наведвальнікі — пераважна інтэлігэнцыя — цікавіліся выстаўкай яе экспанатамі, ды наагул Беларусяй. Шмат прышлося паясьняць, расказваць пра Беларусь. Англамоўнай літаратуры з картай Беларусі пра Чарнобыль (ад а. А. Надсона) аказалася замала.

«Шматкультрны вечар» быў вельмі ўдалым і карысным для нас беларусаў. Заля была перапоўненая наведвальнікамі.

Паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідлянде, што адбудзецца 20 чэрвеня, будзе прысьвечана малітвам за Беларусь і Canada 125.

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады заргістраваўся ўжо браць удзел і ў фэстывалі "Multi-Culturalism in Simcoe Counry", які ладзіць Музэй Сімко Каўнты 4 і 5 ліпеня. Музэй палажаны якіх 15 км. напоўнач ад Бэры, на ўзбярэжжы сасновага лесу ў вельмі прыемным і маляўнічым мейсцы. У беларускай выстаўцы будзе браць удзел сп. Мікола Шуст ведамы з сваіх мастацкіх вырабаў з саломкі й будзе дэманстраваць сваё ўмельства. ККБК заклікае ўсіх беларусаў узяць актыўны ўдзел у рэпрэзэнтаваньні беларускага аддзелу фэстывалю.

Актыўным удзелам у фэстывалі беларусы будуць прапагаваць сваю беларускую культуру, ды адзанчаць 125-я ўгодкі Канады.

Дзеля далейшае інфармацыі просім званіць на нумар: (705) 725-8654. Чакаем на ваш водгук.

**КІРАЎНІЦТВА ККБК**

## ПАШТОВЫЯ МАРКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ




20 сакавіка Рэспубліка Беларусь выпусьціла сваю першую паштовую марку дэнаміналам 1.00 (праўдападобна рубель). На марцы выява Эўфрасіньнеўскага крыжа ў колерах ды напісам кірыліцай і лацінскім альфабэтам «БЕЛАРУСЬ».

10 красавіка выйшла новая марка Рэспублікі Беларусь з выявай ведамага беларускага музыкаведа, хормайстра, заслужанага дзеяча культуры — Рыгора Шырмы. На марцы васількавага колеру напіс: Беларусь-Belarus'. Р.Р. Шырма 1892-1978. Дэнамінал: 20 (капеек?).

Гэтаксама, паштовая адміністрацыя Рэспублікі Беларусь ужывае спэцыяльны актаганальны штамп дэнамінал у 8 капеяк і напісам у ангельскай і беларускай мовах «Беларусь» для валютнага прыраўнаньня савецкіх канвэртаў з малымі дэнаміналамі.

На Нью-Ёркскіх філятэлістычных аўкцыёнах, філятэлісты асабліва палююць за канвэртамі зь беларускім штэмплям.

# РЭХА 25-ГА САКАВІКА
## Ў ЧЫКАГА



*Беларускі сьцяг перад будынкам Гарадзкой Управы Чыкага.*

У дзень 25-га сакавіка стараньнямі Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, быў вывешаны беларускі сьцяг, што побач з амэрыканскім лунаў перад Гарадзкой Управай Чыкага.

У Нядзелю 29-га сакавіка была адслужаная літургія за беларускі народ у каталіцкай Царкве Хрыста Збаўцы айцом Я. Сыру, які ў свёй казані нагадаў пра змаганьні беларускага народу за незалежнасьць 74 гады таму, што пакінула глыбокі сьлед у гісторыі і зьдзейсьнілася зноў абвешчаньнем Незалежнасьці 25-га жніўня 1991 году.

Урачыстая акадэмія 74-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі адбылася ў залі Regency Inn у прысутнасьці блізу сто асобаў. Сп. Хозэ Галяззо прасьпяваў амэрыканскі гімн пад акампанімэнт ср. Эдварда Уокера на піяна. Айцец Я. Сыру ў прынагоднай малітве прасіў Усемагутнага Бога, каб дапамог беларускаму народу асягнуць поўную незалежнасьць, а прысутныя адсьпявалі «Магутны Божа».

Сп. Міхась Махнач, старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага прывітаў па-беларуску сьвяточную грамаду, а адвакат Майкэл Гаскі — па-ангельску. Хвілінай маўчаньня былі ўшанаваныя гэроі паўшыя ў барацьбе за Бацькаўшчыну.

Праграмай кіраваў удала Др. Эл. Талівэр. У часе абеду прысутныя мелі нагоду паслухаць праз гукавую сыстэму беларускія мэлёдыі ў выкананьні славутага песьняра Данчыка.

З прысутных гасьцей былі польскі консул з Чыкага Міхал Грохольскі з жонкай, з увагі на тое, што Польшча была першай, што прызнала незалежнасьць Беларусі, Казімір Оксас (літоўскага паходжаньня) старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, сп. Орэст Баранчык, Старшыня Украінскага Кангрэсавага Камітэту, Аддзелу Іліной, сп-ня Пэт Міхальскі, асыстэнтка пры губэрнатары Іліной па этнічным справам са сваім мужам, сп-ня Роўз Фарына, кіраўнічка выставак і культурных імпрэзаў пры гарадзкой Управе, пастыр Олекса Гарбузюк ад Украінскай Баптыскай Царквы са сваёй спадарыняй. Праклямацыю ад Губэрнатара Джыма Эдгара прачытала сп-ня Міхальскі, ад мэра гораду Рычарда Дэйлі — сп-ня Роўз Фарына.

Др. Эл Талівэр прачытаў прывітаньні ад прэзыдэнта Буша, двух сэнатараў зь Іліной, кангрэсмана Ф. Анунзыё і ад сэнатаркі Штату, Джуды Бар-Топінка.

Сп-ня Вера Рамук прачытала прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў.

Верш Уладзімера Караткевіа «Бог жыве на Беларусі» з папярэднім паясьненьнем па-ангельску, прадэклямавала сп-ня Аліна Мясьнікова, студэнтка.

Зьмястоўны даклад на тэму дня прачытаў адвакат Майкэл Гаскі, у якім, пасьля кароткага гістарычнага нарысу, затрымаўся на эканамічных праблемах Беларусі, падаў колькі практычных прапановаў.

Затым дзьве сьпявачкі: Мадэліна Нэльсон і Пэмэля Пэттібоўн выканалі пад акампанімэнт Эдвіна Уокэра чатыры беларускія песьні «О, Беларусь мая шыпшына», «Я ад вас далёка» і «Туман», кампазыцыі М. Кулiковіча, ды «Ой, Ты Край мой залаты», кампазыцыі Э. Зубковіч.

З прамовамі й прывітаньнямі выступілі пачэсныя госьці: польскі консул Міхал Грохольскі, Орэст Баранчык, Казімір Оксас.

Сёлета плякетку узнаньня ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага сп-ня Вера Рамук даручыла сп. Багдану Паўкэ за ягоную адданую працу для беларускай справы, а таксама спні Вандзе і Міхасю Махначам.



*Пэт Міхальскі (стаіць зьлева) і Роўз Фарына (у капялюшы) з часткай беларускіх удзельнікаў на Акадэміі.*

Усьлед за гэтым сп. Віліям Волта прадэклямаваў верш Уладзімера Жылкі «Беларусь».

Зьмястоўны даклад па-беларуску прачытаў Мікола Прускі з штату Мічыган. Прэлегэнт заклікаў беларускую эміграцыю да аб'яднаньня і супольных высілкаў ў замацаваньні дзяржаўнага статусу Беларусі.

Заканчальную малітву сказаў пастыр Украінскай Баптыскай Царквы, просячы Ўсемагутнага Бога каб узмацняў беларускі народ у яго змаганьні за незалежнасьць.

Сп. Міхась Махнач падзякаваў прысутным за ўшанаваньне беларускага нацыянальнага сьвята. На заканчэньне акадэміі былі адсьпяваныя беларускі гімн ды амэрыканскі "God Bless America".

Праграма была запісаная на відэастужку Нікадэмам Жызьнеўскім.

**Др. Вітаўт Рамук**



*З выстаўкі прэсы. Зьлева: М. Латушкін, П. Агалец, М. Каленік, К. Загонак і П. Нягода. Фота Аўгена Макарэвіча.*

74-я Ўгодкі Абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі — ўрачыста адзначаныя Беларуска-Амэрыканскай Радай Чыкага 29-га сакавіка 1992 г.

Пасьля Сь. Літургіі ў Беларускай Праваслаўнай Царкве Сьвятога Юрыя і малебна за беларускі народ — распачалася Акадэмія, якую вёў Старшыня БАНРады ў Чыкага сп. М. Каленік.

Акадэмія адкрылася амэрыканскім гімнам. Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў зачытаў М. Латушкін. Рэфэрат на тэму дня прачытаў Сакратар Беларускага Народнага Фронту Сяргей Мурог, які быў якраз ў Амэрыцы. На сьвяткаваньні гэтаксама былі госьці-беларусы і зь іншых штатаў і гарадоў — Мілвокі, Ракфорд і інш.

У мастацкай частцы з шэрагам беларускіх народных песьняў выступілі рэгэнт царкоўнага хору Юрка Пячорка і яго жонка Іна. Песьню «Як шырока і далёка беларуская зямля» прасьпявалі М. Н. і М. К.

Для сьвяткаваньня была прыгатаваная выстаўка беларускай пэрыядычнай прэсы, якую зарганізаваў М. Л. Былі прадстаўленыя лепшыя выданьні з Бацькаўшчыны ды з дыяспары.

Урачастасьць сьвяткаваньня закончылася агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Пасьля ўрачыстасьці распачаўся абед, а за тым і танцы.

**Мікалай Латушкін**

## БЕЛАРУСЬ ПАДПІСВАЕ ПАКТ

23 травеня ў Лісабоне (Партугалія) ЗША, Беларусь, Украіна й Казахстан падпісалі пагадненьне, паводля якога тры былыя рэспублікі СССР, забавязваюцца ў як найхутчэйшым часе зьнішчыць, альбо перадаць Расейскай Дзяржаве ўсе баегалоўкі стратэгічнае нуклеарнае зброі. Гэтаксама было ўзгоднена, што Беларусь, Украіна й Казахстан у як найхутчэйшым насе далучацца да суполкі дзяржаваў, стваральнікаў Умовы аб непашырэньні нуклеарнае зброі 1968 году.

Цяперашняе пагадненьне падпісаў міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь, Пётра Краўчанка.

## СЫДНЕЙ, АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Сыднэю й ваколіцаў адзначалі 74-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці БНР у нядзелю 29 сакавіка. Сьвяткаваньне пачалося ў Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве, дзе, пасьля літургіі, а. архімандрыт Віньямін адслужыў малебен за Беларускі Народ. Стварылі ўрачысты настрой дзьве іконы Сьвятой Эўфрасіньні Полацкае, а паміж імі — бел-чырвона-белы беларускі нацыянальны сьцяг.

Акадэмія-ж прысьвечаная падзеі адбылася ў Беларускім Культурна-Грамадзкім Клюбе, дзе сабралася ў гэты дзень шмат нашых суродзічаў. Адчыняючы акадэмію, сп. Міхась Лужынскі зазначыў: беларусы маюць цяпер дзьве даты, калі абвяшчалася незалежнасьць — 25 сакавіка 1918 году й 25 жніўня 1991 г. Паміж гэтымі гістарычнымі падзеямі ёсьць розьніцы. Найперш, іх разьдзяляе значны адрэзак часу, панад 70 гадоў; другое, гэта — дыпляматычнае прызнаньне Беларускай Дзяржавы — у 1918 годзе БНР прызналі панад дзесяток краінаў, а цяпер Рэспубліка Беларусь прызнаная ўжо панад 50-ю дзяржавамі, у тым ліку й супэрдзяржавамі. Але вельмі важная розьніца між гэтымі актамі — розьніца ідэалягічнага парадку. Гістарычная Рада БНР задакумэнтавала свае намеры быць *незалежнай* дэмакратычнай дзяржавай, чаго нельга сказаць пра сёньняшняе кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, якое прыслухоўваецца да павеваў і галасоў з Масквы, больш, сёньняшняе кіраўніцтва рэспублікі — гэта і далей паслухмянцы цэнтру, а не незалежнікі.

Рэфэрат аб падзеі 25 сакавіка прачытаў беларускі палітычны дзяяч, дасьледнік, адзін з раньніх выпускнікоў БДУ, сп. Сымон Шаўцоў. Дэтальна разгледзеўшы падрыхтоўчы этап напярэдадні сакавіка 1918 году, дакладчык асабліва падкрэсьліў, што утварэньне БССР, гэта было простай рэакцыяй на абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Сп. Шаўцоў таксама прасачыў падзеі ў БССР ў 20-30-х гадох, калі тысячы беларускіх патрыётаў былі зьнішчаныя, што значна затрымала нашае дзяржаўнае адраджэньне. Дакладчык закончыў даклад думкай, што у цяперашнім часе наш народ здае палітычны экзамін — альбо ўмацуецца нашая дзяржаўнасьць, альбо будучыня для Беларусі няцікавая. Дакладчык заклікаў падтрымваць нацыянальныя праявы на бацькаўшчыне ды гэтаксама быць ахвярнымі на газэту «Беларус».

У часе ўрачыстасьці былі прачытаныя каля 2-х дзесяткоў прывітаньняў як ад беларусаў сьвету, гэтак і прыязных нам урадаў і народаў. Акадэмія закончылася сьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**М.Л.**

## «МАСТАЦТВА»

адзіны ў сьвеце часопіс па мастацтву на беларускай мове. 80 старонак, каляровыя й чорна-белыя ілюстрацыі, тыраж 2500 асобнікаў, пераказ тэксту на ангельскай мове. Разнастайныя жанры, штомесячныя аўкцыёны, рэклямны сэрвіс, багаты слайд-архіў.

Рэдакцыя бярэ на сябе клопат дастаўкі часопіса на Ваш адрас. Кошт падпіскі: 1 месяц — 4 даляры, 3 месяцы — 10, 6 месяцаў — 20, гадавая падпіска — 35 даляраў. Грошы пералічваюцца на рахунак: 00107333 у Гардырэкцыі Менскбізнесбанка, 220008, вул. Леніна, 14. Заяўку на падпіску з дакладным адрасам просім дасласць у рэдакцыю.

Рэдакцыя шукае кантакту з дзелавымі коламі для ўвасабленьня надзвычай пэрспэктыўных праэктаў у галіне беларускага мастацтва й культуры. Будзем удзячныя за кожную прапанову.

Рэспубліка Беларусь, 220072, Менск-72, вул. Францыска Скарыны, 15.ф «Мастацтва».

Тэл.: (0172) 39-50-89, 39-59-37, 39-40-86. Факс: (0172) 27-06-04 для МАСТАЦТВА.

## Рэха аб візыце Уладыкі Мікалая



*Уладыка Мікалай хрысьціць Альдону Мартыненку. Фота К. Брагінца.*

Уладыка Мікалай у Беларусі быў прыняты і лідэрам беларускага «падрасейскага» праваслаўя архіепіскапам Філярэтам, і кіраўніком Рэспублікі Беларусь сп. С.С. Шушкевічам.

Магчыма, гэтыя афіцыйныя прыёмы — толькі гульня ў дыпляматыю (у прызнаньне або непрызнаньне БАПЦ). Але найлепшы паказьнік таго, што беларусам патрэбная Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, а не падрасейскае праваслаўе — гэта пазыцыя самых вернікаў.

Здавалася-б, калі людзям сапраўды ўжо патрэбныя цэрквы — абы якія, дык ім было дзе і маліцца, і дзяцей хрысьціць, і вянчацца, і паміраць... Але ж візыта ўладыкі Мікалая паказала, што людзі чакалі іншага — яны чакалі беларускага ўладыкі: шмат людзей зьбіралася на багаслужбы ул. Мікалая, людзі займалі чэргі, каб ахрысьціць дзіця ці адправіць які іншы рытуал. Ды й хрысьцілі ж ня толькі немаўлатак, але й падлеткаў — бо чакалі. Сярод тых, хто зьвяртаўся да ўладыкі Мікалая, ёсьць і сем'і вядомых дзеячоў беларускае культуры: фотамастака Анатоля Кляшчука, музычнага крытыка Вітаўта Мартыненкі, сьпевака-барда Зьміцера Сідаровіча ды іншых.

## БЕЛАРУСКІ РАЗЬБЯР



*Дзераўляная брама пры ўваходзе на могілкі працы П. Глебкі.*

На Беларусі адбываецца паварот да духоўных каштоўнасцяў. Пакуль што даволі марудна, але няўхільна. Неабмежаванае панаваньне цёмных антыхрыставых сілаў камуністычнай наменклатуры на працягу жыцьця трох пакаленьняў людзей пакінула цяжкую спадчыну. Здавалася-б, з нашых душаў павінны былі вынішчыць усё сьветлае, усё жывое. Але не, прарастаюць парасткі дзедавай веры, мацнеюць...

Зноў адбудоўваюцца зруйнаваныя храмы, падымаюцца новыя. Да храму ідуць таксама й маладыя людзі, дзеці — гэта радуе. Часцей стала чуваць слова Божае па радыё і тэлебачаньні, часцей гучыць гэтая тэма і ў працах мастакоў.

З творчасьцю аднаго з іх, сп. Пётры Глебкі з-пад Менску, вы можаце пазнаёміцца на гэтым сьціплым фотаздымку. Майстар не так даўно пастрабаваў свае сілы ў разьбе па дрэву. Ужо першая яго конкурсная работа «Адвечная песьня» па Я. Купалу мела высокую адзнаку. А ў мінулым годзе ён выканаў арыгінальную скульптурную кампазіцыю з дрэва на ўваходзе на могілкі невялікага мястэчка.

**Алесь Драніцкі**

*З жыцьця ў Чыкага*

## САКАВІКОВЫЯ ВЫСТАЎКІ



*Выстаўка ў Штатным будынку ў Чыкага.*

21-га сакавіка Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага была аформленая выстаўка у Дэйлі (Daley) Цэнтры, якая патрывала да 2-га красавіка. Дзякуючы стараньням сп-ні Веры Рамук былі атрыманыя зь Менску матар'ялы, прывезеныя сп. М. Белямуком, ад Анатоля Белага, а таксама ад Сяргея Панізьніка. Вялікія плякаты ілюструючыя праваслаўныя, каталіцкія ды іншых веравызнаньняў сьвятыні, цікавыя з пункту беларускага дойлідства, што цяпер рэстаўруюцца й рэмантуюцца, былі павешаныя ўздоўж галоўнай сьцяны. Побач уладкаваліся дзесяць плякатаў аб жахлівых трагічных наступствах Чарнобыльскай катастрофы на Беларускай зямлі,: «Эвакуацыя», «Рэквіем», «Чарнобыльская Мадонна», ды інш. Карта Беларусі, Пагоня, партрэты беларускіх паэтаў — усё прыгожа аформленае. Былі й плякаты, якія ілюстравалі народныя сьвяты, як «Гуканьне вясны», ды беларускіх музычных калектываў.

Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягваў абраз трох жнеяў у народных вопратках, намаляваны Ст. Тамарай зь Нью-Джэрзі.

У ваднэй шафе за шклом экспанавалася вышыўка, вялікая лялька і беларускія шкатулкі інкруставаныя саломкай, у другой — беларускія паясы, жаночная сумка з саломкі, прывезеная зь Беларусі, лялька зь лёну ды драўляны зубр зь Белавежы. У двух габлётках (зашклёныя сталы) — здымкі зь Менску: адраджэнскія маніфэстацыі, выступы лідараў БНФ на мітынгах, канцэрт на стадыёне ў Менску ў дапамогу ахвярам Чарнобыля, помнікі ахвярам бальшавізму ў Курапатах, дзеці-ахвяры Чарнобыля і г.д.

Былі й здымкі амэрыканскіх дзеячоў і палітыкаў — прыхільнікаў беларускай справы, ды гэтаксама здымкі зь дзейнасьці Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага ды праклямацыя Мэра Чыкага з нагоды 25-га Сакавіка.

Вялікі дзякуй за крапатлівае падрыхтаваньне выстаўкі належыцца спні Веры Рамук. Таксама за арганізацыю, падбор экспанатаў, здымкаў, плякатаў ды адпаведныя надпісы з паясьненьнямі падзяка сп-не Ірэне Пануцэвіч; за дапамогу ў разьмеркаваньні выставачнага матар'ялу, за тэхнічную дапамогу пры ўладжаньні выстаўкі — падзяка сп. Васілю Багуну ды сп-ні Ст. Тамары за ветлівае дасланьне свайго абраза, Нікадэму Жызьнеўскаму за нарыхтоўку, а Янку Рамуку за выкананьне надпісаў кампютарным спосабам, ды ўсім іншым, што дапамагалі ў падрыхтоўцы выстаўкі, якая была вельмі пасьпяховая й выклікала вялікае зацікаўленьне ў наведвальнікаў.

* * *

23-га сакавіка, дзкуючы спагадлівасьці сп-ні Пэт Міхальскі, асыстэнткі па этнічных справах пры губэрнатары Іліной Джыма Эдгара ды стараньнем Веры Рамук была наладжаная выстаўка у Штаным будынку ў Чыкага.

Выстаўку афармілі сп-ні Ірэна Пануцэвіч і Вера Рамук. Былі выстаўленыя вышыўкі, лялькі ў нацыянальных строях, зубр з дрэва, шкатулкі інкруставаныя саломкай. Два вялікія плякаты былі падрыхтаваныя сп-няй Алінай Мясьніковай, якія ілюстравалі жанчыну й мужчыну ў беларускіх нацыянальных вопратках, прычым твары былі выразаныя з мэтай даць магчымасьць наведвальнікам пазаваць для здымкаў. Рамкі й падстаўкі для плякатаў зрабіў Нікадэм Жызьнеўскі.

Падзяка ўсім, хто прычыніўся да наладжаньня выстаўкі, што патрывала да 27-га сакавіка.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ПРА БЕЛАРУСЬ У СЯРЭДНІХ ШКОЛАХ

Зацікаўленьне Беларусьсю ўзростае ў сярэдніх школах. Прыкладам, у адну сярэднюю школу гораду Пэрт Амбою, шт. Нью Джерзі, запрасілі ведамага беларускага грамадзкага дзеяча й кіраўніка музычнага калектыву, сп. П. Скепку, расказаць вучням пра Беларусь ды задэманстраваць беларускую музыку. Зь лекцыі былі задаволеныя і вучні й кіраўнікі школы і сп. Скепка, ды беларуска-амэрыканскае грамадзтва.

---

Вучаніца сярэдняй школы гораду Гайлянд Парку, нядаўна закончыла працу — «Архітэктура Менску й Вашынгтону» — параўнаньне». Відавочна, што для гэтае працы студэнтка мусіла карыстацца дапамогай унівэрсытэцкай бібліятэкі, дзе шмат ёй дапамагла сп. Галіна Русак.

## НОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

ЮРКА БАЕНА. Лісты блакітных успамінаў. Бельск-Падляшскі, 1991, 46 б.

У гэтым, прыгожа аформленым, зборніку лірычнае паэзіі аўтар імкнецца перадаць чытачу настрой і пачуцьці шырокага дыяпазону. У вершах «На сьвітаньні дня», «У імгле прадвесьня», «Тая рака» — гэта яму цудоўна ўдалося. Аднак, бадай найбольш урэзваецца чытачу, гэта любоў паэты да Беласточчыны, Белавежы ў вершах: «Зямля ты мая», «Малітва да Белавежы», «Цьвятыня», «Лес ты мой, Белавежскі», ды інш.

Жадаем аўтару далейшае плённае працы ды уважаем сваім абавязкам прывітаць і сп. Алеся Лашука зь Лёндану, што, як зазначае ў пачатку зборніка аўтар, спычыніўся «з дапамогай у выданьні маёй першай кніжкі».

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ ЗАХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ

Дзякуючы стараньням настаяцеля прыходу БАПЦ у Пэрце айца Уладзімера, 14-га лютага сёлета, дырэкцыя мэтрапольных могілкаў прызначыла дзялку для беларускіх могілкаў.

### *Паведамленьне аб зьмене назову Беларусі*

Па атрыманьні "Звароту да рэдактараў і журналістаў", выданага Беларуска-Амэрыканскім Інфармацыйным Бюро, дзеля таго, што ў Заходня-аўстралійскай прэсе і тэлебачаньні надалей ужывалася *«Белоруссія»*, а не *«Беларусь»*, сябры Аб'еднаньня пастанавілі распаўсюдзіць гэтую брашуру ў штаце Заходняя Аўстралія. Для лепшай Арыентацыі да брашуры прыкладалася карта Беларусі і яе суседзяў. Да гэтай пары павядомленыя усе штатныя газэты, станцыі тэлебачаньня, штатныя ўстановы. На вынікі не давялося доўга чакаць, бо неўзабаве прэса і тэлебачаньне пачалі ўжываць назоў *Беларусь.*

### *Удзел Беларусаў у дэманстрацыі Македонцаў*

У часе распаду камуністычнай дыктатуры ў Югаславіі аднавілі сваю незалежнасьць: Славене, Харваты, Македонцы і Босьнія-Гэрцагавіна. Ня лёгка ідзе прызнаньне незалежнасьці гэтых народаў і асабліва Македоніі. Аўстралійцы македонскага паходжаньня адмоўнае становішча аўстралійскага ўраду адносна Македоніі прынялі за дыскрымінацыю і дзеля гэтага 22-га сакавіка зрабілі ў Пэрце дэманстрацыю ў якой прыняло ўдзел больш тысячы асобаў. У падтрыманьне Македонцаў прыйшлі з нацыянальнымі сьцягамі Беларусы, Харваты, Летувісы, Палякі, Мадзяры і штатны аддзел Сусьветнае Лігі Свабоды.

## ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ



**Марыя Мікалаеўна Хоціна** (нараджаная Аўсянская), якая жыве ў Менску, вул. Кальцова, 16, кв. 52, спадзяецца знайсьці Васіля Міхайлавіча Ладуцьку (на здымку ён у цэнтры) або ягоных дзяцей ці родзічаў. Здымак зроблены ў Нью-Ёрку ў 50-х гадох. Зьлева — Міхаіл Ладуцька і Ксенія Ладуцька (дзявочае прозьвішча Прышывалка). Абодвы разам з хутара Новая Ніва, Чэрвенскага раёну, Менскай вобласьці. У Нью-Ёрку зараз ёсьць яе сын — Ігар Хоцін. Тэлефон яго: (718) 376-0612.



Старэйшы чалавек у цэнтры фатаздымку называецца **Максім**. Далей, зьлева направа: Аня, Вольга і Маня. Другі мужчына — муж Вольгі. Маленькая дзяўчынка таксама Вольга. Здымак зроблены перад вайной, г. зн. перад 1941 годам у ЗША.

Вось і ўсё, што захавала памяць старэнькай бабулькі на Беларусі.

Калі вам вядома што-небудзь пра гэтых людзей, просім паведаміць па адрасу: Anna Bartul 193-05 Keno Av.
Holliswood, N.Y. 11423,
або:
211400. Рэспубліка Беларусь,
г. Полацак,
вул. Зыгіна 63, кв. 12.
Цімохаву Сяргею Аляксандравічу.

---

Мая маці, **Марыніч Вера Кузьмінічна,** шукала свайго роднага брата, Марыніча Васіля Кузьміча і ягоную сям'ю на працягу 20 гадоў.

Радзіўся ён у 1926-м годзе у вёсцы Чыжэвічы..У ліпені 1944 году быў вывезены ў Нямеччыну зь вёскі Чыжэвічы, Старобінскага раёну, Менскай вобласьці. Пасьля вайны ён каля году прысылаў лісты, але іх не давалі бацькам. І толькі адзін раз аддалі маленькую кніжачку, на якой стаяў штэмп з Аўстраліі. Больш лістоў ад яго ня было. Нам казалі, што лісты былі падпісаныя Савіцкім Васілём.

Можна хтось аб ім ведае. Мой адрас:
Гэнадзі Кудзелька
г. Салігорск, Менскай вобл.
вул. Акцябарская 31, кв. 50

---

**Уладзімір Лесішын,** 24 гады, народжаны ў Менску,жыве цяпер ужо каля двух гадоў у Лёндане, шукае родных у Амэрыцы.

Гэта мой прадзед. Яго звалі Лука Лукіч Варанцоў. Гэта маёй бабулі бацькі Якава родны брат. Ён жаніўся на дачцы пана, і калі паны выяжджалі, ён таксама выехаў у Амэрыку. Жыў ён у Нью-Ёрку са сваёй жонкай у сваім вялікім доме. Яшчэ перад вайной мелі нейкі кантакт зь ім. А потым усе паразгубілася, усе лісты і фатакарткі ад яго згарэлі ў вайну. Цяпер вельмі цяжка знаць калі ён нарадзіўся, калі ён выехаў, ды гэтаксама дзе ён жыў у Нью-Ёрку. Ці меў ён дзяцей? Ці жывы ён яшчэ, або дзе ён пахаваны на могілках у Амэрыцы? Мой адрас: Ul. Lesishim 799 Harrow Road London NW 10 5PA

Імя асобы на здымку: **Супранёнак Савелі Ігнатавіч**. Здымак зроблены ў 1914 годзе ў ЗША (магчыма ў Кліўлендзе, Чыкага, ці Нью-Ёрку).

Калі вам вядома што-небудзь пра гэтага чалавека, ці пра ягоных нашчадкаў, просім паведаміць на адрас:
Anna Bartul
193-05 Keno Ave.
Holliswood, N.Y. 11423
або:
211440. Рэспубліка Беларусь,
г. Наваполацак,
вул. Маладзёжная 116, кв. 9.
Супранёнку Ігару.

---

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі ды іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп.: Ч. Найдзюк, А. Маркевіч, В. Рамук, Б. Даніловіч, Я. Жучка, М. Раецкі, В. Махнач, Б. Паўке, Р. Жук-Грышкевіч, С. Карніловіч, Ю. Кіпель, Алеся Кіпель, Н. Кудасава.

**Валянціна Міхайлаўна Васількоўская** (220107, Менск, вул. Народная, д. 8, кв. 56) і Аляксандра Сяргееўна Раптуновіч (222120, г. Барысаў Менскай вобл., вул. Я. Коласа, д. 61) расшукваюць сваю цётку і стрыечную сястру Морфій (дзявочае прозьвішча Канапец) Марыю Барысаўну. Яе бацька, Барыс Канапец, выехаў у ЗША разам з братам Фёдарам яшчэ ў 1914 г. у пошуках заробкаў. У Марыі Морфій павінны быць дзьве малодшыя сястры Софія (Соня) і Вольга. Усе яны жылі ў Нью-Йорку, адкуль у 1964 г. прыслалі свае фотаздымкі. Потым сувязі абарваліся.

Муж В. Васількоўскай, інструктар Беларускай асацыяцыі хворых расьсеяным склярозам Алег Леанідавіч Васількоўскі хацеў бы наладзіць сувязі з аналагічнай арганізацыяй у ЗША.

Алена Іванаўна Заяц (223934, Менская вобл., Капыльскі р-н, в. Бучаціна) хацела-бы мецъ весткі пра лёс свайго старэйшага дзядзькі Антона Андрэевіча Сокала-Кутылоўскага, які раней працаваў загадчыкам Ганцавіцкага раённага аддзелу народнай асьветы, а пасля вайны апынуўся на Захадзе.

---

**Ян Барысевіч** (Аўстралія). З газэты «Беларус» я даведаўся, што знаёмы майго бацькі, а нават і прыяцель, Павал Машчонскі, памёр 29 лютага 1992 г. Я дзесь загубіў адрас сям'і Машчонскіх — памятаю, што яны жылі ў Канадзе ў правінцыі Антарыё. Я калісь ліставаўся з братам нябожчыка. Гэта было ў канцы 1950 г., калі я жыў у Польшчы. Сям'я Машчонскіх зь вёскі Райцы, а нашая сям'я зь вёскі Лукашына на Наваградчыне. Я хацеў-бы адшукаць брата Паўлы Машчонскага.

Мой адрас: Jan Borysiewicz. 6 Morellurt. Mooroolbark, Vic. 3138. Australia.

## ДЗЕ НАБЫЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАШТОЎКІ?

...Мне трэба было набыць беларускі каляндар, але нідзе ў Менску я ня змог яго знаайсьці. Адзін мой былы сусед, які цяпер жыве ў Злучаных Штатах Амэрыкі, зьвярнуўся да мяне з просьбай дастаць яму некалькі беларускіх календароў і паштовак. Я яшчэ раз абыйшоў шмат кіёскаў і кнігарняў, але іх так і не знайшоў... Дзе ў сувэрэннай Рэспубліцы Беларусь знайсьці беларускія календарыкі і паштоўкі? Ці, можа, гэта наагул ня існуючая ў прыродзе зьява? Тады чаму ня выконваецца закон аб мовах і да якога часу беларусы будуць цярпець ад дыскрымінацыі?

**Васіль Рычык, Менск**

Гэты цікавы ліст мы перадрукоўваем са скаротамі з газэты «Наша Слова», ад 18 сакавіка 1992.

## ПАБЕЛАРУСКУ Ў КАЗАХСТАНСКАЙ ПРАЎДЗЕ

У Казахстане, як ведама, жыве цімала беларусаў. Яны маюць там свае арганізацыі, нядаўна пачала працаваць у адным з гарадоў дапаўняльная беларуская школа.

А вось 15-га красавіка сёлета ў газэце Казахстанская Праўда была выдрукаваная ў беларускай мове адозва — заклік каб нашыя землякі й іх сябры бралі-б на лета беларускіх дзяцей з чарнобыльскае зоны.

Будзем спадзявацца, што і ў Казахстане знойдзецца водгук аб дапамозе беларусам.

У сваю чаргу мы зварачаемся да нашых чытачоў з просьбай, каб у меру магчымасьцяў, дапамагалі-б і казахстанскай беларускай грамадзе.

Зварачайцеся на адрас:
Т. Жаўранкава, 480118 г. Алма-Ата, п/с 52, Казахстан.

## ПРА БЕЛАРУСЬ У ІНШАМОЎНАЙ ПРЭСЕ

**У Украінскай**

Артыкул Др. Давіда Марплес "Report from Minsk: Belarus, a forgotten nation", зьмешчаны у "The Ukrainuan Weekly". за 3-га траўня 1992 г. — цікавы, але трэба мець на ўвазе, што аўтар — першы раз на Беларусі ды ўспрымае ўсё праз сваю прызму. Ён нат не заўважыў, што беларускі сьцяг ёсьць бел-чырвона белы, а не "red and white Belarus flag..." Але трэ пагадзіцца зь ім адносна сумнага становішча беларускай мовы, якую рэдка чуваць на вуліцах беларускай сталіцы. Ды недахоп нацыянальнае сьвядомасьці кідаецца ў вочы таксма.

Шкада, што аўтар мала згадвае ў сваім артыкуле аб пазытыўным стане адраджэньня, прыкладам аб узросьце жыцьця культурнага, музычнага, тэатральнага, журналістычнага ды інш. Праўда ўсё яно ідзе марудным тэмпам, але тым ня менш крочыць наперад. Вось такія рэфлекцыі надыйшлі чытаючы гэты даволі інфарматыўны артыкул. **Вітаўт Рамук**

**У Бэльгійскай**

Напачатку гэтага году у фляманскамоўнай бэльгіскай газэце "De Stadaard" зьявіліся два артыкулы Фр. Дэ Паў пра Беларусь. Першы зь іх быў прысьвечаны Чарнобыльскай трагэдыі пад загалоўкам «Беларусь будзе яшчэ праз стагодзьдзі змагацца з Чарнобыльскімі ападкамі». Аўтар зазначае, што хоць горад Чарнобыль знаходзіцца на тэрыторыі Украіны, але у дзень катастрофы кірунак ветру быў такі, што Беларусь атрымала ўвесь ападак. Дэ Паў цытуе ўрывак з прамовы Міністра Замежных Спраў Беларусі Пётры Краўчанкі на Агульным Паседжаньні Аб'еднаных Нацыяў: «Чарнобыль быў каталізатарам нашае незалежнасьці».

Нажаль у гэтым самым артыкуле аўтар, даючы кароткі «нарыс» беларускай гісторыі пад загалоўкам «Няясная ідэнтычнасьць» увёў пару грубых памылак. Я на гэта зарэагаваў, пазваніў яму і даў некаторыя, вельмі простыя, папраўкі. Ён сымпатычны прызнаюся ў сваіх памылках, але, нажаль, дадзеных аб Беларусі вельмі цяжка знайсьці, і ён карыстаўся тымі, якія папалалі пад руку.

Праз тыдзень гэты-ж аўтар натрапіў на выказваньне Краўчанкі адносна нашых прэтэнзіяў да паўднёвай часткі Летувы, ды напісаў другі артыкул. На маё вялікае зьдзіўленьне, у гэтым артыкуле ён зрабіў некаторыя папраўкі пасьля нашай тэлефанічнай гутаркі. Найважней, што загаловак гучэў ужо зусім інашк: «Беларусь шукае ідэнтычнасьць і базу на Літоўскім груньце».

Для нас вельмі важна, што некаторыя журналісты заходняй прэсы цікавяцца намі, і ім трэба памагаць у публікацыі праўдзівых гістарычных фактаў, а не свальшаваных, ці недакладных. **Янка Жучка**

## МОЛАДЗЬ — У ДАПАМОГУ СЕЛІШЧУ БЭЛЭР-МЕНСК

Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі заклікае сваіх сяброў ды наагул моладзь прыехаць 20-21 чэрвеня на рэсорт Бэлэр-Менск для дапамогі адміністрацыі Бэлэр-Менску падрыхтаваць селішча да летняга сэзону.

Гэтаксама арганізацыя паведамляе, што ўвечары ў суботу 20-га чэрвэня моладзь зладзіць на Бэлэр-Менску купальскае вогнішча зь цікавай праграмай — сьпевы, гульні, солявыя выступы, неспадзеўкі. Па дадатковыя інфармацыі зварачайцеся да *Пётры Рыжага: тэл. 914-762-7093.*

*За управу АБАМ*
*Юрка Кіпель, старшыня*

**СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ Й ПРЫЯЦЕЛІ!**

**ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА**

**у прошчы Martyr's Shrine ў Мідлянд у Канадзе адбудзецца: у суботу 20-га чэрвеня 1992 году**

## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

**Вячка Цэлеш, Рыга, Латвія.** У лютым, у вашай газэце, сярод іншых зьмястоўных і цікавых артыкулаў, я даведаўся аб існаваньні Мастацкага Клюбу ў Нью-Джэрзі мастакоў-беларусаў Амэрыкі, якія наладзілі выставу ў Саўт-Рывэры.

Я зьяўляюся сябрам і сакратаром аб'еднаньня мастакоў-беларусаў Балтыкі «Маю Гонар», якое аб'ядноўвае мастакоў-беларусаў Эстоніі, Летувы, й Латвіі й Санкт-Пецярбургу. Нас вельмі цікавіць дзейнасьць нашых калег з мастацкага клюбу ў Нью-Джэрзі і мы жадаем наладзіць зь імі творчы й сяброўскі кантакт. Калі ласка памажэце нам у гэтай справе.

Аб'еднаньне мастакоў-беларусаў Балтыкі «Маю Гонар» запрашае мастакоў-беларусаў Балтыйскіх дзяржаваў сьвету ў сваё аб'еднаньне. Зьвяртацца па адрасу:

VJATŠKA CELESH
BRIVABAS 40-20M
RIGA 226050
LATVIJA

**А. Мальдзіс Прэзідэнт Міжнароднага камітэту беларусістаў, Менск**

Міжнародны камітэт беларусістаў, Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Саюз дызайнераў Беларусаі і вытворчае аб'еднаньне «Промсувязь» імкнуцца пашыраць інфармацыю пра Беларусь на розных кантынентах сьвету.

З гэтай мэтай рыхтуем да выданьня сэрыю насыценных перакідных календароў, прысвечаных помнікам старажытнай і сучаснай беларускай культуры (жывапісу, архітэктуры, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладному мастацтву), якія будзем выдаваць у Фінляндыі.

Каляндар на 1993 год прысьвячаецца храмавым інтэр'ерам Беларусі. Сярод іх такі помнік сусветнага значэньня, як фрэскі XII ст. Спаса-Ефрасіньеўскай царквы ў Полацку, фрэскі XV ст. царквы Дабравешчаньня ў Супраслі, фрэскі XVII ст. касцёла св. Станіслава ў Магілёве, фрэскі XVIII ст. касцёла езуітаў у Нясьвіжы і інш.

Каб вызначыць пэўны тыраж выданьня, просім загадзя нас інфармаваць па адрасу:

Рэспубліка Беларусь, 220072, Менск, праспект Ф. Скарыны 66, пакой 420. Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.

Шаноўная рэдакцыя! У 387-м нумары «Беларуса» за люты 1992 году прачыталі ліст Яна Максімюка аб ягонай працы над кніжкай пра Беларускую Гімназію імя Янкі Купалы ў Нямеччыне. Такая просьба і ў нас, толькі нас больш цікавяць ураджэнцы Берасьця й Берасьцейшчыны, якія вучыліся ў гэтай гімназіі. Калі гэта магчыма — няхай яны адгукнуцца. Нам будуць цікавыя іхныя ўспаміны. І яшчэ адна просьба — мы цікавімся Беларускай арганізацыяй у Францыі «Хаўрус». Наш адрас: Беларусь 224030 Берасьце 30, а/с 45. Клюб Аматараў Пэрыёдыкі.

## АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ

Др. А. Бразоўскі — 20.00 аўсталійскіх даляраў; У. Раецкі — 50.00

БРК выказвае ім шчырае беларускае дзякуй.

## БІБЛІЯТЭЧНЫ ЧАСАПІС ПРА БЕЛАРУСЬ

*"Art Libraries Journal"*, які выдаецца ў Англіі, сёлетні другі нумар (том 17, нр. 2, 1992) прысьвяціў у значнай меры літаратуры аб беларускім мастацтве й беларускіх мастацкіх кнігазборах. У часапісе тры артыкулы на беларускую тэму: Галіны Русак, загадчыцы мастацкае бібліятэкі Ратгэрскага Унівэрсытэту, артыкул загалоўлены «Дакумэнтацыя беларускага мастацтва — анатаваная выбарная бібліяграфія», артыкул Зоры Кіпель зь Нью Ёркскае Публічнае Бібліятэкі, загалоўлены «Кнігазборы літаратуры аб беларускім мастацтве» ды Людмілы Кірюхінай, загадчыцы адзьдзелу мастацтва Беларускае Дзяржаўнае Бібліятэкі ў Менску — «Бібліятэкі Беларусі і эстэтычнае выхаваньне». Апрача чыста прафэсыйнага матар'ялу ў артыкуле Галіны Русак пададзена ладна інфармацыі пра гісторыю Беларусі ды развіцьцё беларускага мастацтва, а таксама зьмешчаныя ныя рэпрадукцыі зь ейных дзьвух карцінаў: «Ваўкі-загрожаньне» ды «Васілёк». Выхад гэткага часапісу з абшырным беларусаведным матар'ялам — трэба ўважаць значным дасягненьням ды выдатным дапаможнікам бібліятэкарам-мастацтвазнаўцам у камплектаваньні беларускіх калекцыяў.

## НА БЕЛАРУСКІ ФОНД «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Ахвяравалі па 1000.00 даляраў: У памяць Я. Чарнэцкага, ягоная дачка; Лявон Шурак; Алла Орса Рамана; Сяргей Карніловіч; С. Нарушэвіч; А. Лашук, В. Тур.

Па 500.00 даляраў — В. Заморская; Леў Стагановіч; М. Смаршчок.

У. Набагез — 300.00; І. Гайдзель — 300.00; З. Завістовіч — 250.00; А. Кабяка — 250.00; Др. Лявон Трусэвіч — 250.00; Ст. Тамара — 200.00; Н. і В. Сьнежка — 100.00; В. Кажан — 70.00; сп. і сп-ня В. Міцкевіч — 50.00; В. і Л. Брылеўскія — 50.00; А. Чарнэцкі — 50.00; Н. Кіт — 50.00; О і Я. Альхоўскія — 50.00; І. Сядура — 50.00; У. Глыбінны — 50.00

## СЬВ. ПАМЯЦІ МІКОЛА ЯНУШЭВІЧ

29-га красавіка сёлета ў мястэчку Pencuik (Шкоцыя), пасьля цяжкой хваробы, памёр Мікола Янушэвіч. Нябожчык нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Сурэчна, каля Слоніма. У 1944 годзе выехаў на Захад, ў 1946 апынуўся ў Вялікай Брытаніі, а адтуль, у 1952 годзе паехаў у Лювэн (Бельгія), дзе паступіў на навуку ў Агранамічны Інстытут пры Лювэнскім Унівэрсытэтце. Пасьля заканчэньня студыяў вяртаецца назад у Шкоцыю на працу.

Заставіў у жалобе жонку, сына, дачку і ўнучку.

Няхай будзе яму лёгкай шкоцкая зямелька.

*Унівэрсытэцкія сябры*

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:

| | |
|---|---|
| У. Машанскі | ам. дал. 100.00 |
| З. Кіпель | 100.00 |
| Др. М. Шчорс | 50.00 |
| В. Ковэтт | 50.00 |
| М. Тулейка | 50.00 |
| М. Ханяўка | 30.00 |
| А. Дубяга | 25.00 |
| В. Дубяга | 25.00 |
| К. Колбік | 25.00 |
| Т. Кольба | 25.00 |
| Др. Я. Сажыц | 25.00 |
| В. Артон | 25.00 |
| А.Д. Клімовіч | 25.00 |
| В. Мельяновіч | 25.00 |
| Ю. Станкевіч | 25.00 |
| Л. Махнюк | 25.00 |
| А. Васанскі | 25.00 |
| В. Кабушка | 25.00 |
| Т. Супрун | 25.00 |
| І. Шчорс | 25.00 |
| С. Шыян | 25.00 |
| Г. Агоніс | 25.00 |
| П. Скепка | 25.00 |
| Ю. Стагановіч | 25.00 |
| Разам | 885.00 |

Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| Ю. Андрусышын | 30.00 |
| Я. Ціпко | 50.00 |
| М. і В. Махнач | 50.00 |
| Х. Лемяшонак (Ад Брадфордскага Аддзелу ЗБВБ | 260.33 |
| Торвіл (Torvil LTD) — за абвестку | 80.00 |

Сабрана на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка (ад М. Лужынскага, Аўстралія):

| | |
|---|---|
| Г. Падгайская | 100.00 |
| В. Ліпскі | 100.00 |
| С. Нарушэвіч | 100.00 |
| С. Каранеўскі | 100.00 |
| Н. Ярашук | 100.00 |
| М. Лужынскі | 100.00 |
| С. Шаўцоў | 50.00 |
| В. Стукач | 50.00 |
| А. Бакуновіч | 50.00 |
| У. Радзевіч | 50.00 |
| В. Русак | 50.00 |
| Я. Шкода | 40.00 |
| М. Антух | 40.00 |
| Л. Парэцкі | 30.00 |
| Бел. Аб'еднаньне НПВ | 22.60 |
| В. Спалывая | 20.00 |
| А. Лявоцкі | 20.00 |
| Б. Стукач | 20.00 |
| а. Ігар | 20.00 |
| Н. Цярэшка | 20.00 |
| М. Зуй | 10.00 |
| М. Ціхан | 10.00 |
| А. Хаванская | 10.00 |
| М. Алехна | 10.00 |
| М. Бакуновіч | 10.00 |
| В. Марчэнка | 5.00 |
| І. Супрунчык | 5.00 |
| Я. Пахлеб | 5.00 |
| Л. Прудніцкая | 5.00 |
| О. Тумашэўская | 5.00 |
| Усяго аўст. дал. | 1277.60 |
| ам. дал. | 990.70 |

Каб газэта існавала,
Дваццаць пяць цяпер замала!
Дык давайце, мае братцы,
Будзем слаць па пяцьдзясятцы.
Каму грош лягчэй прыходзе —
Дык і сотка не зашкодзе.
Усіх ад сэрца заклікаем:
Памажэце — мы чакаем.

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікоім шчыры дзякуй.

**Адміністрацыя «Беларуса»**

## ПРАЦА У МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

Міжнародны камітэт беларусістаў інфармуе, што 6-7 красавіка 1992 г. у Менску адбыліся пасяджэньні Міжнароднага круглага стала «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім», у якіх прынялі ўдзел, апрача беларускіх навукоўцаў, таксама ангельскія, італьянскія, польскія вучоныя. Удзельнікі пасяджэньняў прынялі «Падсумаваньне», дзе сказана, што «ўсе народы, якія прымалі ўдзел ў палітычным, эканамічным і культурным жыцьці Вялікага княства, а найперш беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадчыннікамі гэтай дзяржавы, Таму ёсьць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага: **Беларуска-Літоўскае гаспадарства**» Былі ўхвалены таксама практычныя рэкамендацыі па даследаваньню гісторыі часоў Вялікага княства Літоўскага ў агульнаэўрапейскім кантэксце. Зарубежныя госці наведалі Нясьвіж і Мір, дзе далі слова прыкласці ўсе намаганьні, каб гэтыя ўнікальныя комплексы ўвайшлі ў адпаведны каталог ЮНЕСКА.

Адначасова паведамляем, што ў бліжэйшых плянах Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — навуковая канферэнцыя «Адраджэньне нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу» (разам з Нацыянальным навукова-асьветным цэнтрам імя Ф. Скарыны) і сімпозіум «Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету» (разам з Беларускім універсытэтам). Пройдуць яны ў час заняткаў Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры», якая будзе працаваць у Менску ад 1 да 25 жніўня (кошт) ўсяго курсу для студэнтаў са славянскіх краінаў — 50 доляраў ЗША, з іншых краінаў — 100, для тых, хто ўжо працуе, — адпаведна — 100 і 200 доляраў).

У чэрвені МАБ ладзіць ў Пецярбургу канферэнцыю «Беларусы ў Пецярбургу — Петраградзе — Ленінградзе — Пецярбургу»; у верасьні — чытаньні «Беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеяньне», прысьвечаныя 100-годзьдзю з дня нараджэньня Зоські Верас (Вільня). Сябры асацыяцыі прымуць чынны ўдзел у канфэрэнцыях, у Камянцы-Падольскім (Украіна), Любліне (Польшча), Днях беларускай літаратуры ў Бэрліне і інш.

Пашыраецца выдавецкая дзейнасьць МАБ. Падрыхтаваны да друку першы том «Беларусікі», дзе будуць матэрыялы Міжнароднага кангрэсу беларусістаў і працы пра Ф. Скарыну. Робяцца рэпрынтныя ўзнаўленьні рэдкіх выданьняў. Рыхтуецца падарункавы насычэнны каляндар на беларускай і ангельскай мовах з выявамі экстэрыёраў і інтэрыёраў нашых сьвятыняў. За нашым пасрэдніцтвам прымаюцца таксама заказы на ўзнаўленьне «Нашай нівы» (кошт аднаго штогодніка 100 доляраў).

Урэшце трэба сказаць, што пры МАБ створана суполка «Беларуская спадчына», вакол якой яднаюцца маладыя бізнесмены. Яна зоймецца выдавецкай дзейнасьцю, вырабам сувеніраў, наладжваньнем дзелавых кантактаў з зарубежжам. Да суполкі прыгарнулася малое прадпрыемства «Апошняя паслуга» з Горадзеншчыны, якое можа за недарагую цану вырабіць і паставіць помнікі на магілах родзічаў нашых суайчыннікаў за мяжой (з надпісамі на беларускай, літоўскай, польскай ці рускай мовах). Помнікі з дрэва можа выканаць таксама разьбяр Пётра Глебка, прая якога гаворыцца ў допісе А. Драніцкага.

**Адам Мальдзіс, прэзідэнт МАБ**

*Наш адрас для кантактаў*: Беларусь, 220072, Менск-72, праспект Скарыны, 66, п. 420.